# ◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі ◊

## СВЕТ

### ЗАЯВА В. БРАНТА АБ ВІЗІЦЕ Л. БРЭЖНЕВА

Візіт Генеральнага сакратара ЦК КПСС, члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. Брэжнева ў Федэратыўную Рэспубліку Германіі — гэта „выдатная падзея“ пасля заканчэння другой сусветнай вайны, заявіў у заходнегерманскім бундэстагу канцлер ФРГ В. Брант. Выступаючы з урадавай заявай, канцлер указаў, што Л. Брэжнеў падкрэсліў гістарычную перспектыву дыялога паміж абедзвюма дзяржавамі. Федэральны ўрад ацэньвае пазітыўна як сам візіт, так і яго вынікі.

Тры падпісаныя ў Боне пагадненні, а таксама заключная заява, — сказаў В. Брант, — гэта важныя састаўныя часткі новай структуры нашых адносін з Савецкім Саюзам. Не менш важная таксама магчымасць асабістага абмену думкамі паміж кіруючымі палітычнымі дзеячамі абедзвюх дзяржаў, якія з'яўляюцца да таго ж прадстаўнікамі розных грамадскіх сістэм.

Канцлер адзначыў, што візіт Л. Брэжнева ў ФРГ выклікаў велізарную цікаўнасць ва ўсім свеце. Ніхто не павінен думаць, сказаў ён, што ў час дыялогу ў Боне ўрад ФРГ кіраваўся нерэальнымі ўяўленнямі. Чатыры дні візіту былі выкарыстаны сапраўды для работы.

Л. Брэжнеў і я, працягваў канцлер, вельмі дэталёва абмеркавалі тэмы бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе. Савецкі Саюз выказаў зацікаўленасць у хутчэйшым пачатку канферэнцыі агульнаеўрапейскай бяспекі. Я сказаў Генеральнаму сакратару ЦК КПСС, адзначыў В. Брант, што ФРГ і яе партнёры на Захадзе абсалютна не зацікаўлены ў тым, каб зацягваць скліканне гэтай нарады.

Канцлер адзначыў, што адбыўся абмен думкамі таксама па пытаннях узаемнага скарачэння ўзброеных сіл у Цэнтральнай Еўропе.

### НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ АПТОВАГА ГАНДЛЮ

Ужо больш чым два з чвэрцю мільёны тон пшаніцы паступіла на дзяржаўныя нарыхтоўчыя пункты ў адпаведнасці з распрацаванай урадам Індыі праграмай нацыяналізацыі аптовага гандлю збожжам. Штат Пенджаб — жытніца краіны — штодзённа здае дзяржаве амаль 60 тысяч тон пшаніцы.

### ШАНЦЫ ЗАХАВАННЯ МІРУ

Прэзідэнт Р. Ніксан заявіў, што „за апошнія некалькі гадоў шанцы на захаванне міру ва ўсім свеце ўзраслі“. У гэтым годзе, сказаў ён, нас чакае серыя перагавораў яшчэ больш важных, чым тыя, якія мы вялі ў нядаўнім мінулым, перагавораў, якія дапамогуць вызначыць будучы лёс міжнароднага міру і супрацоўніцтва на астатнюю частку цяперашняга стагоддзя і нават больш позні час.

### СТАНОВІШЧА Ў КАМБОДЖЫ

Ажыццявіўшы шэраг маланкавых аперацый, патрыётам удалося расшырыць займаемы плацдарм на дарозе № 4, якая звязвае Пномпень з марскім портам Кампангсомам. Контратакі пномпеньскіх войск, узмоцненых спецыяльнымі падмацаваннямі „зялёных берэтаў“, якія праходзілі падрыхтоўку ў Паўднёвым В'етнаме, былі паспяхова адбіты сіламі вызвалення са значнымі стратамі для праціўніка. (ак)

## БССР

### ПЕРАД ВЫБАРАМІ

Пад старшынствам Ф. Сурганава адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Старшыня Бярозаўскага раённага выканаўчага камітэта Л. Гур'еў склаў справаздачу аб ходзе падрыхтоўкі да выбараў у мясцовыя Саветы.

Мясцовыя Саветы пад кіраўніцтвам партыйных органаў праводзяць агітацыйна-масавую работу сярод насельніцтва. Яна накіроўваецца на паспяховае выкананне задач трэцяга рашаючага года пяцігодкі. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР адначасова вырашыў шмат іншых спраў, якія адносяцца да выбараў у мясцовыя Саветы.

### ПАСТАНОВА АБ МАСТАЦТВЕ

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі прыняў пастанову „Аб мерах па далейшаму развіццю выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы“. У гэтай пастанове адзначаецца, што за апошнія гады выяўленчае мастацтва Беларусі дасягнула пэўных поспехаў. Майстры жывапісу, скульптуры і графікі стварылі шэраг значных твораў рэвалюцыйнай і высока-грамадскай тэматыкі, якія адлюстроўваюць самаадданую барацьбу працоўных за сацыялізм, за ўмацаванне магутнасці вялікай Савецкай краіны.

У пастанове намечаны канкрэтныя меры па далейшаму развіццю беларускага выяўленчага мастацтва, па значнаму павышэнню яго ролі ў ідэйна-эстэтычным выхаванні працоўных. ЦК КП Беларусі ўказвае таксама галоўныя напрамкі дзейнасці творчым саюзам БССР.

### ПІСЬМЕННІКІ І ПЯЦІГОДКА

На будоўлі Мазырскага нафтавага камбіната пабывала вялікая група беларускіх пісьменнікаў. Яны пазнаёміліся з ходам гэтай вялікай будоўлі, правялі гутаркі з яе рабочымі, наведалі бібліятэкі горада. Адначасова быў наладжаны вялікі літаратурны вечар, у якім прынялі ўдзел: А. Грачанікаў, Н. Гілевіч, І. Чыгрынаў, А. Вярцінскі, Я. Каршукоў, Б. Спрынчан, Л. Прокша і Л. Гаўрылкін. Вечар прайшоў пад дэвізам „Пісьменнік і пяцігодка“.

### НОВЫ ФІЛЬМ

Рэжысёр У. Яфрэмаў закончыў здымкі новага поўнаметражнага фільма „Жывая ніць“, прызначанага для Беларускага тэлебачання. Героямі гэтага фільма з'яўляюцца рабочыя і інжынеры, лабаранты і тэхнікі Магілёўскага завода штучнага валакна. Сцэнарый „Жывой ніці“ напісаў Г. Колас. Ён намагаўся раскрыць складаны духоўны свет чалавека, адлюстраваць чалавечыя характары ва ўсёй шматграннасці, паказаць узаемаадносіны людзей у вытворчасці.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА ТЭАТРАЎ

Творчае супрацоўніцтва даўно ўжо аб'ядноўвае калектывы Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску і Смаленскага дзяржаўнага драматычнага тэатра, які нядаўна пабываў на гастролях у Віцебску. Смаленскія артысты распачалі свае выступленні камедыяй В. Возава „Сітуацыя“. Затым паказалі тры іншыя п'есы. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### АЦЭНКА ВЫКАНАННЯ ПЯЦІГАДОВАГА ПЛАНА

Пад кіраўніцтвам прэм'ера Пётра Ярашэвіча адбылася цэнтральная нарада, прысвечаная выкананню пяцігадовага плана. З ацэнкі відаць, што план выконваецца добра. Першыя гады пяцігодкі даюць аснову верыць у яшчэ лепшае выкананне планаў наступных трох год.

### НАФТАПРАВОД „ДРУЖБА“ ПАШЫРАНЫ

Аддадзена ў карыстанне другое адгалінenне нафтаправода „Дружба“, якім плыве савецкая нафта для польскай хімічнай прамысловасці.

### ДРУГІ З'ЕЗД ТККС

Закончыўся другі з'езд Таварыства свецкай культуры. Былі накрэслены наступныя галоўныя заданні таварыства: фарміраванне свецкай гуманітарнай маральнасці, папулярызацыя свецкіх абрадаў і гэтак далей.

### СУАДНОСІНЫ ПОЛЬШЧА—ТУРЦЫЯ

З пабыўкі ў Турцыі вярнуўся на радзіму прэм'ер ПРН П. Ярашэвіч. Візіт яго ў Турцыі быў плённы. Аб гэтым сведчыць, між іншым, апублікаванае камюніке аб міжнароднай сітуацыі, двухбаковых суадносінах і супрацоўніцтве.

### ЯК ПРЫМАЦЬ НА ПРАЦУ?

Пастановай Рады Міністраў была прынята пастанова аб новым спосабе прымання на працу ад 1 ліпеня. Яна поўнасцю апублікавана ў „Маніторы Польскім“, а накіравана яна супраць рознага роду хуліганаў, абібокаў і пастаянна змяняючых працу.

### АД 1 ЧЭРВЕНЯ

Ад 1 чэрвеня становяцца правамоцнымі новыя пастановы наконт ільгот у пошлінах. У святле новых пастаноў будзе прымацца пад увагу пры пошлінах узрост асобы, якая пераязджае граніцу, прафесія, пара года, куды едзе асоба, мэта і час паездкі.

### З ПАДАРОЖЖА І САКРАТАРА ЦК ПА КРАІНЕ

І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў дынамічна развіваючыся Мазавецкі цэнтр садоў і агародаў. Цікавіўся таксама прамысловасцю, якая перапрацоўвае плёны садоў і агародаў.

### КРАЁВАЯ НАРАДА АКТЫВУ ФАН

У Варшаве адбылася агульнакраёвая нарада актыву Фронту адзінства народу, на якой дыскутавалі над грамадска-гаспадарчым развіццём краіны. Асноўным пунктам нарады было выступленне старшыні агульнапольскага камітэта ФАН праф. Януша Грашкоўскага.

### У НОВЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ...

...пачне вучобу на розных напрамках вышэйшых школ 16,5 тысяч настаўнікаў. Справе навучання настаўнікаў надаецца вялікае значэнне ў сувязі з рэформай асветы ў Польшчы, якая чакае нас у бліжэйшы час. Лепшы, разумнейшы настаўнік — лепшая школа.

### У 26 ВЕЛАГОНЦЫ МІРА...

...камандным пераможцам аказалася каманда ПНР. Таксама індывідуальна найлепшым велагоншчыкам быў Р. Шуркоўскі. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### У ТЫКОЦІНЕ

І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі разам са старшынёй Прэзідыума ВРН З. Спрыхам і намеснікам старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровічам наведалі перадавую Тыкоцінскую гміну. Начальнік гміны ў Тыкоціне В. Садоўскі паінфармаваў гасцей аб грамадска-гаспадарчым развіцці гміны, аб сельскагаспадарчых выніках, аб сенакосах і падрыхтоўцы да жніва, аб развіцці жывёлагадоўлі. Гаварылася таксама аб праблемах развіцця Тыкоціна і гарцэрскай акцыі адбудовы замка.

З. Куроўскі, З. Спрыха і Р. Лазаровіч наведалі замчышча і турысцкую базу ПТТК.

### ЗАКЛІК ДА СЯЛЯН

Прэзідыум ВРН у Беластоку звярнуўся з заклікам да сялян і сельскагаспадарчай службы, каб хутчэй і больш масава ўключаліся ў сенакосы. Сена, сабранае ў канцы мая і першых днях чэрвеня, мае найвышэйшую вартасць і найбольшую каларыйнасць. Апрача таго, ранейшае кашэнне сена дае магчымасць лепш выкарыстаць пагодныя дні першай паловы чэрвеня і сабраць яшчэ трэці ўраджай сена.

Адначасова адбылася нарада прадстаўнікоў ваяводскіх улад з прадстаўнікамі ўстаноў, адказных за справы сельскай гаспадаркі. Асабліва на нарадзе крытыкаваліся выпадкі прымянення недастатковай колькасці мінеральных угнаенняў і недахопы ў рамонтах сельскагаспадарчых машын.

### 20-ГОДДЗЕ „ФАСТ“

Калектыў найбольшага ў нашым ваяводстве тэкстыльнага камбіната „Фасты“ адзначыў 20-годдзе свайго прадпрыемства. У апошнія гады камбінат дабіўся значных поспехаў у павелічэнні колькасці і павышэнні якасці тканін, мадэрнізуючы шэраг сваіх аддзелаў.

У сувязі з юбілеем рабочыя ўзялі на сябе абавязацельства даць дадатковыя метры тканін, якія карыстаюцца найбольшай папулярнасцю на рынку. На камбінаце адбываюцца сустрэчы кіраўніцтва з рабочымі паасобных аддзелаў, арганізуецца таксама шэраг мерапрыемстваў пад лозунгам „Фасты свайму гораду“, напрыклад, выстаўка дзіцячых малюнкаў аб „Фастах“, канцэрты і спартыўныя матчы, а таксама вулічны кірмаш фастаўскіх тканін.

### НОВЫЯ БУДЫНКІ

Гайнаўскае прадпрыемства лясных машын „Гаймаклес“ атрымала пяць новых цэхаў, якія павялічылі вытворчую плошчу фабрыкі на 100%, а таксама фабрычнае прадшколле і дом культуры. Новыя будынкі даюць магчымасць павялічыць прадукцыю на 66% і значна палепшылі ўмовы працы і адпачынку.

### ФЕСТЫВАЛЬ

Чатыры дні ў Беластоку праходзіў IV агульнакраёвы фестываль салдацкіх тэатраў паэзіі. Удзельнічала 12 найлепшых калектываў. Фестываль гэты ўжо трэці раз адбываецца ў Беластоку, а сёлета асабліва ўрачыста ў сувязі з надыходзячым юбілеем 30-годдзя Людовага Войска Польскага. Фестываль закончыўся канцэртам лаўрэатаў, а многія калектывы выступілі ў розных клубах нашага горада. (яч)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 3.VI.**
7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy”. 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.00 TELERANEK. 10.20 „Odroczenie zagłady” — film dok. („Świat, który nie może zaginąć”). 10.55 Transmisja z uroczystości położenia kamienia węgielnego pod budowę Centrum Zdrowia Dziecka. 12.00 Dziennik. 12.15 „Dzień pierwszy” — rep. film. 12.45 „Na chłopski rozum” — program wiejski. 13.15 Dla dzieci: J. Porazińska — „Kichuś majstra Lepigliny” cz. I. 14.00 „Piórkiem i węglem”. 14.25 Losowanie Totolotka. 14.40 „Piosenka dla Ciebie”. 15.35 Z cyklu: „Śladami Piastów Śląskich” — LEGNICA. 16.05 „W starym kinie” — „Kobieta na księżycu” — film arch. niem. 17.35 Z cyklu: „Przyjąć czy odrzucić”. 18.15 „Kryteria”. 18.30 PKF. 18.40 „Teatrzyk Antoniego Marianowicza”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Groźne spiski” — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii”) odc. IV. 21.45 „Studio 13”. 22.50 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 4.VI.**
12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec”, „Obserwatorium. 17.30 „Echo stadionu”. 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: W. Inge — „Przystanek autobusowy”. 21.45 „Niedaleko Warszawy” („Profile kultury”). 22.10 Dziennik. 22.25 „Gra HAGAW”.

**Wtorek 5.VI.**
10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Na wyspie Wolin”. 10.30 „Groźne spiski” — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii'). 12.00 „Gdy ziemia przyciąga” — film dok. radz. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Julian Tuwim”. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 POLITYKA DLA WSZYSTKICH. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 20.15 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Milion” — film fab. franc. 21.40 „Szpitale bez pacjentów” — program publ. 22.05 Dziennik. 22.20 Kronika Mistrzostw Europy w boksie. Wiadomości sportowe.

**Środa 6.VI.**
8.30 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Milion” — film fab. franc. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Telekonkurs”. 10.25 „Starożytna Mezopotamia” — film dok. TV NRD. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Świat dźwięków”. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Jeszcze Polska nie zginęła...” 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 14.00 „Wybieramy zawód”. 15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender” — „Szkoła Jungów 2000”. 17.10 Magazyn ITP. 17.25 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej Polska — Anglia. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Święty” — film ang. 21.05 „Robert Diabeł i wieszcze” — widowisko słowno-muzyczne. 22.05 Dziennik. 22.20 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Europy w boksie.

**Czwartek 7.VI.**
8.10 „Święty” — film ang. 9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Geethe — Schiller”. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Historia, ale jaka!” 10.55 Dla szkół: (kl.III lic.) Język polski — Z. Nałkowska — „Granica”. 14.00 Matematyka w szkole: „Pogłębianie i utrwalanie materiału nauczania w ćwiczeniach”. 15.10 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 15.45 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.15 Program dnia. 16.20 PKF. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.45 Festiwal Filmów Krótkometrażowych. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Program publicystyczny. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: J. Janicki — „Akcja V” — odc. VI „Trzeci most”. 21.35 „Refleksje”. 22.05 „Agencja SAT” — Satyryczna Agencja Telewizyjna. 22.35 Dziennik. 22.50 Sportowy magazyn sprawozdawczy (m. in. sprawozdanie z półfinałów Mistrzostw Europy w boksie).

**Piątek 8.VI.**
8.45 „Krewni i znajomi” — film fab. NRD (kolor) odc. I. 9.55 Dla szkół: (kl. IV) Geografia „Komunikacja lądowa”. 10.25 Bułgarskie filmy dokumentalne. „Tracja”, „Mityczny jeździec Traków”. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Metalurgia”. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora” 17.25 „Nie tylko dla pań”. 17.50 „Gramy o telewizor”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Magazyn medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Spotkanie z Mieczysławem Czechowiczem”. 20.50 „Panorama”. 21.30 Teatr TV: M. Gorki — „Ostatni”. 23.00 Dziennik, Wiadomości sportowe.

**Sobota 9.VI.**
8.20 FILMY Z GRETĄ GARBO: „Anna Karenina”. 9.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Polacy na Czarnym Lądzie”. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Sprawy 15-latków”. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Człowiek i jego naturalne środowisko”. 14.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów”. 17.40 „Turystyka i wypoczynek”. 18.05 „Za kierownicą”. 18.35 „Godzina Orfeusza”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 FILMY Z GRETĄ GARBO: „Anna Karenina”. 21.45 Dziennik. 22.00 Finały Mistrzostw Europy w boksie. Kronika.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 1 czerwca**
8.15 Film fab. 10.00 Koncert. 10.30 Szkoła szachowa. 11.00 Filmy dokument. 14.10 Program dnia. 14.45 Zawsze niech będzie słońce. 15.30 Twórczość narodów świata. 16.10 Człowiek. Ziemia. Wszechświat. 16.35 Filmy animowane dla dzieci. 17.35 Spektakl teatralny. 19.00 Czas. 19.50 Program muzyczny.

**Sobota, 2 czerwca**
7.00 Program dnia. 7.30 Mozaika muzyczna. 7.45 Przegląd międzynarodowy. 8.00 Koncert. 9.30 Koncert uczestników twórczości amatorskiej. 10.45 Filmy animowane. 12.15 Spektakl teatralny. 16.00 Piłka nożna. „Dynamo” (Moskwa) — „Dynamo” (Kijów). 17.45 Seryjny film fab. I część. 19.00 Czas. 19.30 TV teatr miniatur. 20.40 Międzynarodowe regaty wioślarskie w Moskwie.

**Niedziela, 3 czerwca**
7.00 Program dnia. 8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Dla żołnierzy. 9.30 Almanach TV. 11.50 Białe i czarne. 12.20 Film fab. 13.30 Spotkanie muzyczne. 15.00 Klub filmowy. 16.10 Seryjny film fab. II część. 17.30 Finałowy koncert I wszechzwiązkowego wiosennego festiwalu przyjaźni narodów ZSRR. 19.00 Czas. 19.30 c.d. koncertu. 21.00 Turniej szachowy.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 173


## ЧАМУ ВЯСНОЙ?

Чаму якраз цяпер калі вясна і
птушкі і кветкі
чаму не восенню плачлівай
меланхалійнай невясёлай
Чаму?
каму паскардзіцца... няма
вясна смяецца незалежна а
вочы гаснуць памаленьку і
няспынна
сэрца тонка крычыць
Чаму?
чаму якраз цяпер
прарвалася містэрыя
павука і
ніткі адзінока жаласна
хітаюцца на бакі
што гэта за стралок
умелы папаў трапна
вясной якраз
радасці душы няма
лёгкім паветрам поўным
запахаў цудоўных
так цяжка дыхаць грудзям
напаўняць яшчэ раз
Чаму?
чаму вясной такой прыгажуняй
калі сады цвітуць
калі глядзець як
раненька нясмела тычынка
з-за доўгіх веек — пялёстак белых
выглядае
чаму якраз цяпер і
паскардзіцца няма каму
Чаму?

**Ірэна Баравік**



* * *

я божага ў табе шукаю сёння
у целе душы тваёй
узнёслай
вербы пяюць — зялёнакосыя мадонны
вёснам
а можа сатана
у тваім целе гнуткім
вабіць анакондай таямнічай
прыйсці запалымнеюць
і згінуць хутка
знічкай
няволя ў волі
грэшнасць у святыні
люстра крыніцы не дае адказу
ці можа чалавек пайсці з багіняй
разам

**Алесь Барскі**



## БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Дзень быў прыгожы, ясны. Па роснай траве цягнуліся доўгія цені. Спявалі жаўранкі. Над рэчкай, як дымок ад кастра, слаўся блакітны туман.

Дык вось яна — вядома, Белавежская пушча! Ціхая, велічная. Навокал велізарныя сосны, яліны. Яны стаялі выпраставаныя. Некаторыя зусім ужо старыя, іх ствалы нават злёгку нахіліліся да зямлі. У старым густым лесе было ціха і змрочна, пахла вільгаццю, грыбамі, смалой, Кругом зелянела трава, стракацелі кветкі і на кожнай кветцы, на кожным лістку зіхацелі кроплі расы. Але вось дарога пачала ўздымацца ўгару і лес зноў змяніўся. Цяпер ужо замест ялін усё часцей і часцей траляліся дубы. Спачатку невысокія, слабенькія, затым усё мацнейшыя і вышэйшыя. Вось яліны ўжо і зусім зніклі, а за імі сосны. Унізе расла густая сакавітая трава, а ўверсе раскінулася шырокае лісце.

Я адчула вялікую любоў да прыроды.

**Ірэна Васілюк**

## Вясенні настрой

Іду
Раскіслай дарогай —
Убіраю сонца праменні.
Вясна ўжо!
Вясна ей-богу! —
Крычу
У захапленні.

Вітайце,
Прасторныя гоні,
Сябры мае маладосці,
Я рады, што з вамі сёння,
Прыміце мяне
За госця.

Здароў жа,
Сябра мой вецер!
Якім
Маладым ты стаўся,
Каго ж так
Спяшаеш сустрэці?
Няўжо ж
Ты зноў закахаўся?

Эгэ, селянін бушуе,
Смяецца вецер ласкава.
Вясна
У маім сэрцы гасцюе,
Вясна, брат —
Чароўная справа!

Зноў сэрца
Б'е жвавым рытмам,
Нагам няма стомы,
Спакою.
Давай, брат,
За вясну вып'ем
Чарку з агністай вадою.

**Ул. Гайдук**

## ◆ ЧАЛАВЕК ◆

Адзін скажа:
Чалавек — гэта добрая істота,
істота прыхільная, сардэчная,
спачуваючая ўсяму жывучаму,
шануючая плады яго працы.

Другі скажа:
Чалавек — гэта дзікі, варожы звер,
які страціў людскія прыкметы;
не чуе ні плачу, ні крыку, не знае страху,
не знае мэты сваім злачынствам.

Разам яны скажуць:
Чалавек — гэта добрая істота
і дзікі, варожы звер.

Ёсць людзі добрыя і ёсць людзі злыя,
ёсць людзі з добрымі сэрцамі
і ёсць людзі...
без сэрц.

**Георгій Баена**



## ЗАПРАШЭННЕ

Прыедзь, запрашаю,
паводле па сцежках
маіх мараў...
Лесам сонным
у расу-лёд,
у кветак водар шалёны,
у ягад чарнату
і багна едкі пах,
па рацэ ў агні,
між гнёздаў кнігавак,
у лотаці мора.
Прыедзь, я ад сэрца...
Дзе грыбы — пакажу
мае месцы.
Ціпіню разумець
навучу, палюбіць
першы крык сонны —
птушак і жаб —
хор так дзіўны,
пыльны дзень,
зямлю ўзапрэлую,
неба сінь і васількоў,
збажыны рунь
пад ветрам.
Прыязджай, спаткаеш мяне...
Першы гром —
грукат любы,
музыка, чар нябёс,
водар маланак,
агня, вады, зямлі —
радасць новай вясны.
Сярод поля сцяжынка —
там не мінуцца
у навальніцу.
Чакаю цябе, прыедзь
ці прыйдзі басяком...

**Вераніка Леанюк**

* * *

Пазаві мяне
Пазаві
Мы заблудзіліся
У хмельных травах
Мы пасеем
Дзікія макі
Макі чырвоныя
Якіх даўно
Не бачылі
Пазаві мяне
Пазаві
Мы знойдзем
Кветку папараці
У якую
Мы хочам паверыць

**Надзея Артымовіч**

## ● ДЭБЮТ ● ДЭБЮТ ● ДЭБЮТ ●



Нарадзіўся я ў 1953 годзе ў вёсцы Ляшукі, на Гайнаўшчыне, у сям'і настаўніка. У 1960 годзе пайшоў у першы клас пачатковай школы ў сваёй роднай вёсцы. Скончыўшы яе, быў прыняты ў ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Тут шырэй спатыкаўся з беларускім культурным, аматарскім рухам. Быў членам хору пры аддзеле БГКТ у Гайнаўцы, а таксама прымаў удзел у конкурсах на беларускую песню. У 1972 годзе, атрымаўшы атэстат сталасці, трымаў экзамен на беларускую філалогію пры Варшаўскім універсітэце, аднак без поспеху.

Вершы пачаў пісаць яшчэ ў ліцэі, спярша на польскай, а потым, за намовай прафесара Аляксандра Іванюка, на беларускай мове.

Зараз працую настаўнікам у суседняй вёсцы.

* * *

Рука...
Звычайная чалавечая рука,
пяць пальцаў.
Далонь.
Рука — гераіня жыцця.
Ёю можна
задушыць,
забіць,
пакрыўдзіць.
Пакрыўдзіць чалавека,
які церпіць, хоча жыць,
хоча быць шчаслівым.
Я таксама мару аб шчасці,
хацеў,
каб мая рука
таксама яго ажыццявіла,
пазнала мары кахання.
Рука,
мая малая рука
Уплялася ў твае валасы,
іх срэбрны колер
спляла...
Хачу жыць,
жыць сягонняшнім днём.
Дзе знайду далонь тваю,
гарачай хваляй
вярочаўшай спакой...
Твая далонь
цудоўная,
гарачая.
Рука.

**Юрка Харкевіч**

## ◆ ЯНА ◆

адчытала калісь
таямніцу поля:
птушка якая мела адляцець
засталася на дрэве
учапілася кіпцюрамі кары
паплыла ў ёй кроў
галінкамі
цяпер кружыцца лісцем

я гэтага не ўмею паняць

калі мы ідзём
праз зялёнае жыта
Яна гаворыць
што чалавек
павінен мець
характар рыбы

Яна не любіць
калі неба хліпае

**З. Сачко**



## НА БЕЛЬСКАЙ ГАВОРЦЫ

## Захутко зорвалі

Кружылі над яблінёю пшчолы,
Збіралі пыл
І засыпувалі нашы сліды
Што осталісь
на росяную траві.

Зобраны міед
Міев запах розстання.

Пэрэцьвіла яблiня —
ад'ехала ты.
Твоїі пісьма топілісь
в біелі забутья,
А моя надея
ополала як лісьце.

Нэ узнав я смаку яблыка
Которэ зарано
мы
зорвалі.

**Іван Кірызюк**

 

Пачатак на стар. 1

# НЕ АДЗЕННЕ ХАРОШЫЦЬ

тары, мноства наглядных дапаможнікаў, падручныя прадметныя бібліятэкі. Замест нязграбных шафаў, у кабінетах паявіліся сучасныя надта практычныя ў карыстанні мэбліасценкі. Афармлялі тут усё пад кіраўніцтвам і наглядам настаўніка, які выхаванне мастацкага густу ў моладзі праводзіць на канкрэтнай працы на карысць школы.

З асаблівым піетызмам абсталяваны кабінет роднай беларускай мовы. А прывіваюць і ўмацоўваюць у вучняў любоў да ўсяго роднага ў гэтым кабінеце мгр Аляксандр Іванюк — візітатар гайнаўскага інспектарата асветы, старшыня гайнаўскага аддзела БГКТ і член Прэзідыума ГП БГКТ, а таксама мгр Васіль Сакоўскі — вядомы актывіст БГКТ і былы шматгадовы кіраўнік секцыі беларускага школьніцтва Акругова метадычнага цэнтра ў Беластоку.

Сваёй асабістай скромнасцю і глыбокай эрудыцыяй заваражвае ў ліцэі мгр Янка Петручук — настаўнік польскай мовы, які ў вольны ад працы ў школе час ужо некалькі год займаецца вывучэннем слоўнікавага складу гаворкі сваёй роднай вёскі Курашава, што на Гайнаўшчыне. Картатэка мгр Я. Петручука ўжо мае каля адзінаццаці тысяч лексічных адзінак. Яна і з'яўляецца асновай доктарскай дысертацыі, якую рыхтуе гайнаўскі паланіст пад навуковым кіраўніцтвам праф. др А. Абрэмбскай-Яблонскай і доц. др Э. Смулковай на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта.

Аваладанне вучнямі матэматычных ведаў знаходзіцца ў руках заслужанага педагога мгр Параскевы Рушук. Нямецкую мову выкладае шматгадовая настаўніца, узнагароджаная дзяржаўным ордэнам Алаіза Кшэўская. Іншыя прадметы таксама маюць адпаведных спецыялістаў з высокімі кваліфікацыямі. Біялогіі навучае мгр Анатоль Скепка, фізіцы — мгр Уладзімір Рушук, хіміі — мгр інж. Аляксандр Бірылка, геаграфіі — мгр Аляксей Сяльвесюк.

І нягледзячы на тое, што школа не мае інтэрнату і амаль 95 працэнтаў вучняў — гэта моладзь даязджаючая, усё ж у ліцэі вядзецца інтэнсіўная пазакласная праца: дзейнічаюць гурткі зацікаўленняў па розных прадметах, вакальна-музычны калектыў. У гэтым школьным годзе былі праведзены дзве вучнёўскія папулярна-навуковыя сесіі: „50 год СССР" і „500-годдзе з дня нараджэння М. Каперніка". У ліцэі актыўную дзейнасць развівае школьная арганізацыя Саюза сацыялістычнай сялянскай моладзі...

Нядаўна ў ліцэі адзвінеў апошні званок для 66 былых вучняў чацвёртых класаў. Колькі ўжо іх пакінула сцены ліцэя за амаль чвэрць стагоддзя яго працы? Дырэктар называе лік — каля васьмісот. Звыш двухсот з іх вучыцца сёння ў вышэйшых навучальных установах або ўжо атрымала вышэйшую адукацыю і цяпер працуе ў розных галінах гаспадаркі, навукі і культуры нашага краю.

**Мікалай Гайдук**



*У Рэгіны Нявінскай да заканчэння працы толькі некалькі лінеек.*



*Анатоль Лейчук не расстаецца са сваім талісманам — коцікам, гэта, кажуць, прыносіць шчасце.*



*Галена Давідзюк заканчвае пісаць чарнавік працы.*

## Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву" на III квартал?

**Калі не, дык зрабіце гэта да 10 чэрвеня (гэта значыць, неадкладна). А яшчэ лепш зробіце, калі выпішаце «Ніву» да канца года.**

**Выдатак невялікі, а карысць велізарная. Вы пазбавіцеся лішніх клопатаў, а знойдзеце верную сяброўку і дарадчыка.**

## МАТУРА

Вучні апошніх класаў ліцэяў і тэхнікумаў здаюць матуры. Наш фотарэпарцёр наведаў беларускі ліцэй у Бельску, дзе адбываўся пісьмовы экзамен. У бельскім ліцэі да пісьмовых экзаменаў прыступіла 77 на агульны лік 85 абсальвентаў.

*Тэкст і фота А. Карпюка.*



*Люся Васілюк пасля заканчэння матуры вельмі хацела б паступіць на беларускую філалогію Варшаўскага ўніверсітэта.*

Пачатак на стар. 1

# НА СЦЭНЕ ШКОЛЬНІКІ

П'еса „Незвычайная сустрэча" мела просты змест. Піянеры адправіліся ў паход, забіраючы з сабою сяброўку, бацькі якой загінулі ў час вайны. Адбываецца піянерскі касцёр, пры якім выпадкова сустракаюцца маці і дачка. Трэба звярнуць увагу на дэкарацыю сцэны. Кіраўнік калектыву, настаўніца Тамара Бусняк, увяла натуральныя бярозы, мох, папараць. Толькі касцёр, хаця дасканала зроблены, быў штучны. П'еса была добра выканана і таму журы на чале з рэдактарам „Зоркі" Янінай Чэрнякевіч прызнала першае месца гэтаму калектыву.

Калектыў пачатковай школы з Паўлаў Беластоцкага павета выступіў з п'есай „Марат Казей". Ён заняў трэцяе месца. Школьнікі пад кіраўніцтвам дырэктара мясцовай школы Валі Мароз паставілі вельмі амбітны спектакль, і пастаноўка распачалася вельмі добрай ігрой вучняў, якія выконвалі дзіцячыя ролі. Каб на першым акце паўлаўскі калектыў закончыў выступленне, была б, бадай, іншая ацэнка. Аднак потым прыйшлі цяжэйшыя ролі, ролі гітлераўцаў, а сімпатычныя хлопцы (дарэчы, больш падыходзячыя да ролі Клоса) не пасавалі да ролі зверскіх эсэсаўцаў. Адным словам, пастаноўка зацяжкая як на магчымасці вучняў.

Пасля заканчэння агляду з настаўнікамі-рэжысёрамі сустрэўся вядомы тэатральны інструктар Эдвард Гудоўскі, член журы сёлетняга цэнтральнага агляду. Сказаў ён, што рэпертуар некаторых калектываў павінен быць больш дапасаваны да дзіцячых магчымасцей. Звярнуў ён увагу, што вельмі істотнай справай у пастаноўцы павінна быць дэкарацыя, акцёр павінен гаварыць проста, натуральна і павінен разумець тое, што гаворыць. „Гаварыць так, як штодзень", — гаварыў Гудоўскі.

У гэтым годзе ўсе пастаноўкі былі савецкімі п'есамі пра піянераў. Аж карцела, каб гэтыя п'есы адаптаваць да нашых умоў. Нашым дзецям намнога лягчэй было б іграць у мундзіры гарцэра, чымсьці піянера. Яны проста былі б больш натуральныя.

І яшчэ адно. Ці няма ў нас здольных белавежцаў, якія напісалі б штосьці для дзяцей?

**А. Карпюк**

фота аўтара

# З ПКС-у галавой на брук

Вучань першага класа Віктар М. ехаў аўтобусам з з Клейнік, дзе ён вучыцца, у Істок, дзе жыве. Шафёр ПКС-у не спыніўся на аўтобусным прыпынку. Дзіця перапалохалася, што заедзе аж у Даратынку і на хаду выскачыла з аўтобуса. Упала на брук. Тады шафёр спыніў машыну і непрытомнага хлопца адвёз на лекарскі пункт у Нарве. Сябра па класу Віктара М. паведаміў аб гэтым няшчасным здарэнні яго бацькам.

— Я адразу адправілася ў Нарву, — расказвае маці Віктара. — Ён яшчэ там быў. Закрываўлены, запухлы. З перапалоху не мог вымавіць аніводнага слова. Троссяя, яго рвала.

У гэтым стане лекар з нараўскага пункта аховы здароўя, падазраваючы сатрасенне мазгоў, выклікаў машыну хуткай дапамогі і адправіў хлопца ў гайнаўскую бальніцу. Віктар М. праляжаў там дзевяць дзён.

— Цяпер ён у нас нейкі нервовы стаў, — наракае маці. — Заікаецца і вучыцца горш.

— І ніякага адшкадавання нам не прызналі, — дадае бацька. — Вось тут аднаму толькі палец дзвярыма адбіла ў аўтобусе і то дастаў колькі грошай, а мы — нічога! Адказалі нам, што няма асноў, а ён жа ў бальніцы быў! Яшчэ лепшых асноў трэба?

Малы хлапчук здалёк неяк палахліва прыслухоўваўся нашай гутарцы. Клічу яго да сябе.

— Віця, — прашу, — раскажы мне, як гэта было з табой там у аўтобусе?

Ён маўчыць, апусціўшы галаву.

— Ці ты купіў сабе білет? — дапытваюся.

— Не, — ледзь чутна адказвае вучань, але яго бацька тут жа ўскліквае:

— А ты добра сабе прыпомні! — амаль крычыць вострым голасам. — Я ж даваў табе грошы на білет! — І звяртаючыся да мяне, дадае: — Заўсёды даю яму грошы, не шкадую.

— Дык ці не лепш купіць дзіцяці месячны білет? — прапаную селяніну.

— Месячны білет яму непатрэбны, — рашуча сцвярджае бацька. — Тут у Істок усяго ледзь два з палавінай кіламетры, а ён, — паказвае на сына, — не кожны дзень ездзіць ПКС-ам. Ногі мае здаровыя, можа прабегчыся.

Між Клейнікамі ды Істокам адзін толькі прыпынак. Праезд каштуе два злотых. Хто вінаваты, што сямігадоваму дзіцяці давялося прайсці такія цяжкія перажыванні?

Яго бацькі абвінавачваюць толькі шафёра ПКС-у. На жаль, не ўдалося мне адшукаць яго. Дык звярнуўся я ў Беластоцкі аддзел дзяржаўнай аўтобуснай камунікацыі, якому падпарадкаваны таксама ПКС-ы, якія курсіруюць у Гайнаўскім павеце. Дырэктар аддзела, Станіслаў Вікторка, сказаў мне, што ўпершыню ад мяне чуе пра гэта няшчаснае здарэнне з Віктарам М., жыхаром вёскі Істок.

— Праца вадзіцеляў на аўтобусах ПКС, — гаварыў дырэктар, — асабліва цяжкая і адказная. Пастаянна нам не хапае людзей да гэтай працы. Аднак хуліганства сярод нашых працаўнікоў мы выкараняем рашуча і паслядоўна. Толькі пасля дзевяці месяцаў часу цяжка адшукаць шафёра, які тады вёў аўтобус на трасе Бельск—Нараў, тым болей, што не ведаем яго прозвішча. Пры тым я хачу заўважыць, што наш вадзіцель мог зусім не ведаць, што гэты хлапчук хоча выйсці ў Істоку, бо ён не купляў білету. А калі на прыпынку не было іншых пасажыраў, дык вадзіцель не быў абавязаны спыняцца ў Істоку. Адначасова — гэта таксама трэба падкрэсліць — не пакінуў ён параненага дзіцяці без дапамогі і адвёз яго на найбліжэйшы на дарозе лекарскі пункт.

— Бацька гэтага дзіцяці скардзіцца ў ліцэ ў нашу рэдакцыю, што не прызналі яму грашовай рэкампенсаты за няшчасны выпадак з яго сынам.

— Гэта ўжо справа ПЗУ, — сцвярджае дырэктар, — і мы на рашэнні гэтай установы ўплыву не маем, але адно магу сказаць, што патрабаваць якой-колеч рэкампенсаты можна толькі тады, калі пасажыр меў важны білет на праезд. А гэты ж вучань...

Так, Віктар М., вучань клейніцкай школы, хацеў зааашчадзіць два злотых. Чаму? Ён сам — маўчыць, не хоча гаварыць. Дык звяртаюся за паясненнямі да настаўнікаў. Яны ж, між іншым, павінны былі растлумачыць сваім вучням, што неабходна шанаваць і прымяняць усе правілы, абавязваючыя ў час карыстання з публічных сродкаў камунікацыі.

Дырэктар школы Васіль Пучка кажа:

— Кругом гаворыць і пішуць: „Шафёр, дапамажы дзіцяці!" Дзеці наслухаліся гэтага і дайшлі да вываду, што можна ім і без білетаў.

Клейнікі — вёска праязная, прышашэйная. Аказіі да бясплатнага пракатання на аўтамашыне здараюцца для вучняў вельмі часта. Але не датычыць гэта ПКС-у. За праезд на аўтобусе ПКС — нават на адлегласці аднаго прыпынку — абавязкова трэба плаціць.

— Здараецца, — паясняе адна з настаўніц клейніцкай школы — што некаторыя вадзіцелі аўтобусаў ПКС прымыкаюць вочы на безбілетных вучняў, а вось іншыя, каб іх напалохаць і адвучыць ад дармовай язды, перавозяць школьнікаў шмат далей, чым ім трэба. Так магло быць і з гэтым Віктарам.

Хай тады яго невясёлы вопыт будзе перасцярогай для ўсіх іншых дзяцей, якія карыстаюць з паслуг ПКС ці ПКП. Адначасова ў выпадках яўна хуліганскіх адносін вадзіцеляў трэба адразу ж паведамляць аб гэтым кіраўніцтву ПКС і аддзелам камунікацыі прэзідыумаў ПРН. Толькі тады можна хутка ўстанавіць вінаўніка і пакараць яго.

**Максім Нурэцкі**



 

 



КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ДЗІЦЯЧЫЯ ЯСЛІ-САД

Мы хочам пазнаёміць вас з адным з дзіцячых садоў сталіцы Савецкай Беларусі — Мінска. Але вось з якім? У горадзе іх звыш 300...

...І вось мы падыходзім да светлага двухпавярховага будынка... Зрэшты, ён тут не ў адзіночным ліку. На велізарнай зялёнай лагчыне высіцца цэлы комплекс будынкаў. Ля галоўнага ўваходу вісіць таблічка: „Яслі-сад № 26“. Дзверы гасцінна раскрыты, і першае, што мы з вамі бачым, гэта прасторны хол. На сценах — прыгожая мазаіка: сцэны з беларускіх народных казак. Нас сустракае вясёлая, шумная кампанія — хлапцоў і дзяўчат 3—6 гадоў.

Узяўшыся за рукі, малыя спяшаюцца на вуліцу. Сёння цудоўная пагода, і, зразумела, ранішнюю зарадку найлепш правесці на зялёнай траве. Для малышоў педагогамі сумесна з доктарам сада распрацаваны спецыяльны комплекс фізкультурных практыкаванняў. Практыкаванні не складаныя, у большасці пабудаваныя на гульнях, і дзеці з прыемнасцю выконваюць іх.

Але вось зарадка закончана. Цяпер мыцца! Ва ўтульнай сталовай малых чакае смачнае снеданне. Пасля фізкультурных практыкаванняў апетыт цудоўны!

Пасля гэтага ў садзіку наступае час цікавых заняткаў, у ходзе якіх кожны з малышоў можа праявіць сябе. Пад наглядам вопытных педагогаў дзеці прабуюць сваіх сіл у маляванні, лепцы, у спеве, танцах...

З пакоя ў пакой вандруем мы па дзіцячаму саду. Малодшая група дзяцей малюе, сярэдняя — спявае, а вось у старэйшай — заняткі асобага плана. У пакоі, дзе яна размяшчаецца, усё напамінае аб школе. І нездарма. Дзеці старэйшага ўзросту вельмі хутка зоймуць месца за сапраўднымі школьнымі партамі. Рыхтуюць тут дзяцей да школьных заняткаў, да будучага школьнага рэжыму вопытныя выхаваўцы, у большасці — спецыялісты з вышэйшай адукацыяй.

У якім бы дзіцячым садзе Мінска ты не пабываў, перш за ўсё звяртаеш увагу на тое, якімі клопатамі, любоўю акружаны тут маленькія грамадзяне. Кожны дзіцячы сад — гэта дзяржаўная школьная ўстанова, дзе створаны ўсе ўмовы для гарманічнага развіцця дзяцей.

— Мы імкнемся стварыць для кожнага дзіцяці ўмовы, блізкія да хатніх. Больш таго — каб спрыялі ўсебаковаму развіццю нашых выхаванкаў, — гаворыць заведуючы дзіцячым садам.

Зразумела, што некага можа зацікавіць, а як адбіваецца на сямейным бюджэце плата за прабыванне дзіцяці ў дзіцячым садзе? Уласна кажучы, ніяк, бо гэтая плата вельмі і вельмі нязначная — у сярэднім дзесяць рублёў у месяц. Большую частку выдаткаў бярэ на сябе дзяржава.

Дзеці ў садзе звычайна знаходзяцца з васьмі гадзін раніцы да пяці-шасці гадзін вечара, гэта значыць да таго часу, пакуль іх бацькі, вяртаючыся з працы, не забяруць іх — усяго прыкладна дзевяць — дзесяць гадзін.

Гэта, так сказаць, даведка для дарослых.

Ну, а што датычыцца мінскіх малышоў, то для іх час прабывання ў дзіцячым садзе — заўсёды прыемны і, як яны самі гавораць, нязвыкла цікавы.

**Аляксандр Кійранен**
Фота **В. Казлова**



*Куток практычных ведаў*




## ЦІ ВАРТА НАСІЦЬ ПАРЫКІ?

Спецыялісты-дэрматолагі сцвярджаюць: жанчына ў будучыні будзе лысая. Перад кабінетамі дактароў усё павялічваецца чарга пацыентак, якія скардзяцца на аслабленне і выпаданне валасоў. З'ява гэтая дала дасканалую магчымасць зарабіць вытворцам парыкоў і дапінак. Шапка з нейлонавых валасоў стала сёння зусім паўсюдным галаўным уборам. Найгорш аднак, што многія дзяўчаты і жанчыны так да яе прывязаліся, што носяць яе ад рана да вечара.

Як вынікае з вопыту дэрматолагаў у цэлым свеце, валасы жанчын вельмі ўражлівыя на розныя некарысныя імпульсы. Жанчыны лысеюць па многіх прычынах: занадта нервовы спосаб жыцця і мужчынскі характар працы, розныя нервовыя хваробы, курэнне папяросаў, прабыванне ў дымных памяшканнях, нерацыянальнае харчаванне. Масавае выпаданне валасоў можа наступіць таксама ў перыяд клімаксу, альбо ў выніку спажывання некаторых лекаў. Вельмі дрэнна ўплывае на валасы неразумнае худзенне.

Надзвычай шкодзіць валасам лак, начосванне, завіўка, а нават накручванне валасоў нанач на жалезныя валікі (дзякуючы моцнаму нацягванню валасоў, кроў не даплывае да цыбулек, а валасы, як скура і лёгкія, патрабуюць кіслароду). Каб мець прыгожыя і здаровыя валасы, трэба разумна іх даглядаць, але таксама неабходна дбаць аб сваім здароўі.

Тое, што так распаўсюдзіліся парыкі, пагражае валасам яшчэ больш. Прылягаючы цесна да галавы, парык перашкаджае працэсу дыхання, спрыяе горшаму кровазвароту. Дастаткова правесці такі вопыт: панасіць парык некалькі дзён без перапынку і глянуць пасля ў люстэрка. Валасы стануць матавыя, будуць нейкія прыдушаныя.

Як вядома, парык каштуе не мала. Што ж маюць рабіць нашыя чытачкі, якія ўжо набылі мо нават не адзін, а некалькі парыкоў? Спаліць іх мы не нагаварваем. Было б грахом выкідаць на вецер грошы. Але гаворым станоўча і без кампрамісу: парыком неабходна карыстацца толькі ў выключных выпадках, пры так званых вялікіх аказіях, калі парык можа ўпрыгожыць жанчыну, а натуральныя яе валасы такой прыгажосці не маюць. Можна выкарыстаць парык і тады, калі вы прастуджаны і не можаце ісці да парыкмахера, а валасы павінны выглядаць прыгожа, альбо калі вас нечакана запрасілі і няма ўжо часу на прычоску.

Вярнуўшыся аднак дахаты, парык трэба адразу зняць, а валасы дакладна расчасаць шчоткай.

Асабліва шкодна насіць парыкі летам. Скура тады занадта пацее, валасы ўвесь час вільготныя і іх стан пагаршаецца на вачах.

**Эскулап**

**Д. МАРОЗАЎ**

# КРАХ АПЕРАЦЫІ




ВЫ ПАМЫЛІЛІСЯ, ПАН ФЕЛЬДМАРШАЛ

Генерала Крэбса — начальніка штаба сухапутных войск — з раніцы апаноўвала ўзрастаючае пачуццё злосці, у прычынах якога ён аднак пабаяўся б прызнацца і самому сабе.

Ноччу ён вярнуўся ў Берлін з новай стаўкі ў Гесене, каля горада Цыгенберга, дзе разам з усім саставам генеральнага штаба вермахта прымаў удзел у нарадзе.

У падземнай зале вакол вялікага стала сабраліся фельдмаршалы і генералы. Да пачатку нарады ішлі нягучныя размовы. Раптам усё сціхла. З патайных дзвярэй увайшоў фюрэр. Мінуту яго позірк блукаў па зале, ён быццам нюхаў паветра. Затым, злёгку цягнучы правую нагу падышоў да адзінага крэсла і сеў, моцна сутулячыся.

Крэбс адзначыў, што левая рука фюрэра пачала дрыжэць яшчэ мацней з часу мінулай нарады.

Адразу ж пасля таго, як генерал-палкоўнік Іодль далажыў аб набліжэнні Савецкай Арміі да граніц рэйха, Гітлер, які сачыў за яго дакладам па карце, рэзка выпраставаўся, з сілай кінуўшы на стол тоўсты каляровы аловак. Вочы яго ўспыхнулі знаёмым усім вугальным бляскам.

— Вышэйшыя сілы, — павольна пачаў ён, — прыйдуць на дапамогу вялікай Германіі. Руская армія пагубіць сябе з першых крокаў па нашай зямлі. Тады ўзнімуцца ўсе сілы нацыі. Тады толькі свет зведае татальную вайну! — Голас яго дасягнуў верхняй мяжы. Гітлер, здавалася, стараўся перакрычаць самога сябе. Бледны твар стаў зеленаватым. — Я зноў павяду сваю армію на Усход!

У падземным бункеры стала ціха. Было чутна, як дзесьці побач капае вада. „Напэўна, умывальнік, — падумаў Крэбс. Ён агледзеў генералаў, якія сталі, захопленыя парывам фюрэра. Фельдмаршал Кейтэль зняў старамоднае пенснэ, і блізарука жмурачыся, крыху спалохана глядзеў на Гітлера.

Пасля глыбокай паўзы фюрэр працягваў:

— Сусветную гісторыю можна рабіць толькі ў тым выпадку, калі на справе станеш на той бок цвярозага розуму і вечнай асцярожнасці, усё гэта трэба замяніць фанатычнай упартасцю. Толькі ворагі і баязліўцы, — ён зноў пачаў з нізкай ноты, — могуць сумнявацца ў нашай перамозе. Ваенны і прамысловы патэнцыял імперыі выкарыстан далёка не поўнасцю... Мая армія несакрушальная, мы атрымаем... — Голас яго зноў абарваўся. Я даў загад аб новых мерах, — ціха закончыў ён і рэзка павярнуўся.

Крэбс заўважыў, як фюрэр хуткім рухам закінуў за спіну дрыжачую руку. Затым ён выйшаў з бункера. Прамова фюрэра зрабіла на Крэбса непрыемнае ўражанне. „Відаць, гэта праўда, — падумаў ён, — што доктар Марэль, асабісты ўрач фюрэра, павялічыў колькасць узбуджальных уколаў да шасці ў дзень. Гітлер, здаецца, сапраўды цяжка хворы“.

Мінуту панавала маўчанне.

— Панове, — сказаў Кейтэль, надзяваючы пенснэ. — Зыходзячы з даных аб перагрупоўцы сіл праціўніка, а таксама з агульнага ваеннага і палітычнага становішча...

„ Да чаго ж агідны голас і манера гаварыць“, — падумаў Крэбс.

— ...трэба лічыць, — працягваў Кейтэль, — што рускія, відаць, сканцэнтруюць свае галоўныя сілы на паўднёвых участках фронту. Удару трэба чакаць перш за ўсё ў Галіцыі...

Пасля Кейтэля слова папрасіў генерал з групы „Цэнтр“. Ён сцвярджаў, што рускае наступленне разгортваецца на поўначы, іменна ў напрамку граніц Усходняй Прусіі.

Кейтэль стомлена ўсміхнуўся і зрабіў плаўны жэст рукой, быццам адсоўваючы ад сябе нейкую нябачную перашкоду.

— Я папярэдне кансультаваўся з фюрэрам, панове. Рускія будуць наступаць іменна на поўдні. І таму ўсе контрмеры, прадугледжаныя намі, трэба прыняць у першую чаргу на паўднёвых напрамках фронту.

Нарада неўзабаве закончылася. І вось пасля бяссоннай ночы, гайданкі ў самалёце генерал Крэбс, нарэшце, у Берліне ў галоўным штабе сухапутных сіл.

Злосць усё яшчэ валодала ім. Падзеі развіваліся з немінучасцю падзення авіябомбы, якая ўжо вылецела з адкрытага люка.

„Чакаць удару на поўдні... — успомніў Крэбс. — Ну, не, мой дарагі фельдмаршал. „Фанатычная упартасць“, пра якую гаварыў Гітлер, патрабуе не чакання, а актыўных дзеянняў. Вы рана запісалі сябе ў выратавальнікі айчыны. Фюрэр адмовіўся ўжо ад многіх такіх палкаводцаў. Калі мы не можам наступаць на фронце, то гэта зусім нічога не значыць!“

Крэбс узяў са стала свежы нумар газеты „Фёлькішэр беобахтэр“.

У вочы яму кінуліся радкі, выдзеленыя ў перадавым артыкуле тоўстым шрыфтам: „Фюрэр не змог бы захоўваць жалезны спакой, калі б не ведаў, што ён можа кінуць на чашу вагаў у рашаючы момант“.

Доктар Гебельс мае на ўвазе „сакрэтную зброю“ — ракеты „Фау“. Так, характар вайны зменіцца. Старыя фельдмаршалы не ўмеюць весці татальную вайну, ім прыйдзецца ўступіць сваё месца такім, як ён, Крэбс.

Кіруючыся духам часу, генерал падрыхтаваў сваю сакрэтную зброю. Гэта быў план „Цыклон“.

**(Працяг будзе)**



 

*З балгарскага гумару*

# Памылкі няма

Жонкі запыніліся недзе на алеі і пакінулі нас з немаўлятамі. Мы з Сімчам катаем сваіх сыноў у белых калясках. Малыя соладка спяць, павыстаўляўшы ручкі, а мы сабе гутарым.

Сімча не глядзеў па тэлевізару апошні футбольны матч, і я расказваю яму, як Бонеў забіў гол. Але той ніяк не можа ўявіць сітуацыю. Тады я пакінуў каляску, разбегся і лупцануў нагою пусты папяровы кулёк.

— Няўжо гэтак? — здзівіўся Сімча. Ён пакінуў сваю каляску і таксама махнуў нагой у паветры.

Паступова ён зразумеў, як Бонеў зафундычыў гол, і мы абое зноў вярнуліся да калясак.

— Авэй! — спалохана ўскрыкнуў Сімча. — Слухай, мы пераблыталі немаўлят.

— Няўжо? — сцепануўся і я спалохана.

Пялёнкі белыя, распашонкі белыя, бразготкі стракатыя — ну, як ты іх адрозніш?

Глядзім атарапела на русыя валосікі і ружовыя шчочкі і нас пачынае працінаць жах.

Падышлі жонкі і пырснулі ад смеху. Але і яны ажно ўспацелі, пакуль распазналі дзяцей.

І зноў мы пакацілі каляскі, але сумненне мяне не пакідала. А што калі мой сын вырасце такі, як Сімча? Нават вуглавога ўдару ўявіць не можа! А Сімчаў паскрэбак унаследуе мой зайздросны талент мастака, замахае пэндзалем і ўзрушыць увесь свет сваімі карцінамі.

Добра, што жонка распавіла малога, і я супакоіўся. Сын выжаўціў усю пялёнку ў мадэрнісцкім стылі. Памылкі няма: мой!

**Ул. Кірыцаў**

— *Стаўлю прапанову вярнуць пакаранне розгамі для бацькоў.*

### АДКАЗАЛА

Пяцігадовая дачка кажа бацьку:

— Тата, правядзіце мяне на вуліцу пагуляць, бо я баюся гэтага пеўня.

— А ты, як вырасцеш вялікая, таксама будзеш пеўня баяцца? — пытае бацька.

— Не, як вырасту вялікая, я буду хадзіць гуляць, калі пеўні будуць спаць.

# НІЎКА

*Сям'я.*

### ДЗЕ Ж ВАНЬКА?

Муж, жонка і пяцігадовы Ванька пераходзяць уброд рэчку. Пасярэдзіне рэчкі жонка захвалявалася:

— Госпадзі, а дзе ж Ванька?

— Не крычы! Я яго за руку вяду! — адказаў муж.

### ВЫДУМКА

Сямігадовая дачка паляўнічага гаворыць сваёй сяброўцы:

— Калі настаўніца зноў будзе расказваць нам пра першабытных людзей, якія жылі толькі з палявання, я скажу ёй, што гэта выдумка.

### ДАПАМОГ

Раніцою бацька пытаецца ў малога сына:

— Віцька, ты не бачыў, куды дзелася недапітая бутэлька гарэлкі, што стаяла на стале?

— Ты ўчора казаў: „Моцная, зараза, ніяк не раскалоць“. Дык я паспрабаваў і расколоў. Вунь пад сталом шкельцы ляжаць...

### „СКУПАЯ“ МАЦІ

Па вуліцы ідзе валасаты, ускалмачаны юнак. Малы хлопчык пaглядзеў на яго і гаворыць бацьку:

— Тата, а ў гэтага хлопца скупая мама.

— Чаму ты так думаеш?

— А яна не дае яму грошай схадзіць у цырульню...

**З песняў вясёлага Бурацiна**

## Песенька здзіўлення

Я — шчыры сябра ўсіх дзяцей.
І ў будні дзень і ў свята
Я забаўляю іх часцей,
Чым нават добры тата.

Маіх сяброў не палічыць —
Так многа іх на свеце.
І ўсюды хораша гучыць:
„О, наша радасць, дзеці!“

І я шчаслівы быў пачуць
На спеўцы ў час гуляння,
Што ў нас бацькі дзяцей завуць
Вяршыняю кахання.

Але мяне здзіўляе рэч:
Чаму сям-там мужчыны,
Як толькі ўзыдуць — тут жа прэч
Нясуцца з той вяршыні?

Або чаму другім карціць —
Як быццам больш надзейна —
Вяршыню гэтую ўзваліць
На бабу і на дзеда.

**Песню Бурацiна падслухаў**
**Ніл Гілевіч**

*«Ветэран» і навічок.*

### АДНАГОДКІ

— Мама, колькі табе гадоў? — запыталася дачушка.

— Трыццаць сем.

— Значыць, праз трыццаць гадоў мы будзем з табой аднагодкі.

### НЕ ВЕДАЕ

— Жан, прызнавайся, хто пісаў табе хатняе сачыненне?

— Слова гонару, не ведаю, мсье, я рана лёг спаць...

### НАКАРМІЎ

Паглядзеў бацька на Міколкавы боцікі, пакруціў у руках і паківаў галавою:

— Дык яны ўжо кашы просяць...

Селі снедаць. Маці паставіла на стол улюбёную Міколкаву кашу. Міколка ўзяў сваю талерку і пайшоў у другі пакой.

— Ты куды? — пытае маці.

— А я свае боцікі пакармлю. Татка казаў, што яны кашы просяць.

*Без слоў.*

### ПРЫЕМНЫ СОН

Чатырохгадовы Алесь, прачнуўшыся, мігам скочыў з ложка і пабег да буфета.

— Што ты там шукаеш? — пытаецца маці.

— Цукеркі!

— Якія цукеркі? Ніхто цукерак туды не клаў!

— А я клаў!

— Калі?

— А ноччу, калі спаў!..

**...У сваёй дачкі яму найбольш не падабаліся якасці, якімі ён захапляўся ў сваёй сакратаршы.**

**...Ён шукаў выхаду яшчэ ля ўваходу.**

— *А мы якраз, мама, пра цябе гаварылі.*

### *ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

*Па просьбе Зоі Раманюк, Валі Ігнацюк і Люсі Лук'янюк з Бялок Гайнаўскага павету змяшчаем песню*

## „BUTTERFLY"

Tak jak ja — żyj każdą chwilą dnia,
chwytaj szczęście, póki jeszcze trwa,
wiosną bądź, gdy wokół nagle się rozszumi maj,
gdy cię ktoś pokocha, Butterfly.

Butterfly, o Butterfly,
świat jest piękny, Butterfly,
Butterfly, o Butterfly,
w świat za szczęściem biegnij, Butterfly!

Tak jak ja — w ramionach zamknij świat,
w ptaków krzyk się wsłuchaj, w letni wiatr,
ludziom zaś swój uśmiech, najpiękniejszy uśmiech daj,
nie martw się o jutro, Butterfly!

Butterfly, o Butterfly...

Tak jak ja — patrz ludziom prosto w twarz,
własnych dróg i własnych szukaj gwiazd,
w dłonie chwyć czas, który bezimiennie minąć chciał,
wszystko jest przed tobą, Butterfly!

Butterfly, o Butterfly...

# Курёзы

### ЗАЛАТЫ ГОЛАС

Свае алімпійскія гульні ёсць і ў канарэек. Адборачныя спаборніцтвы і фіналы праводзяцца ў Сінгапуры. На апошнім спаборніцтве сабралася некалькі тысяч трэнераў-гаспадароў. У фінал увайшлі сто найлепшых, самых галасістых гадаванцаў.

Мерапрыемства ў Сінгапуры справядліва называюць музыкальным конкурсам. Чацвёра суддзяў, якія маюць дасканалы слых і салідную дозу ўсходняй цярплівасці, вызначаюць кожны год прызы сярод пявучых кенараў.

### ФІЛУМЕНІСТЫ, УВАГА!

Якія запалкі найдаражэйшыя ў свеце? Ну, калі не ў свеце, дык, прынамсі, у Еўропе? Жыхарам Быстшыцы Клодскай нават думаць над гэтым пытаннем не трэба: яны ведаюць, што такія запалкі выпускаюцца менавіта ў іх. Адна запалка гарыць роўна дзве мінуты. Купіць гэтыя запалкі можна толькі ў адным месцы — філуменістычным музеі пры мясцовай запалкавай фабрыцы.

### КАФЕЙНАЯ ЛАЗНЯ

Нават сярод сапраўдных знаўцаў далёка не кожны ведае, што такое кофе па-японску, хоць асаблівых сакрэтаў тут няма. Бярэцца невялікі басейн ці, у крайнім выпадку, звычайная ванна і запаўняецца падагрэтым градусаў да шасцідзесяці кофе ў зёрнах. Пасля гэтага трэба мінут на дваццаць закапацца ў яго — і чалавек адчувае сябе нанова народжаным. Ну, а калі якога-небудзь надта патрабавальнага аматара кофе па-японску не задавальняе, ён можа ўзмоцніць яго дзеянне чашачкай кофе, падрыхтаванага любым іншым спосабам.

Смяйся з намі

**Не за тое чорнага ката білі, што дарогу пераабег, а за тое, што сала з'еў.**